


КАБ СВЕТЛАЙ БУДУЧЫНІ ГМАХ
УВЕРХ ЎЗДЫМАЎСЯ ШПАРКА,
КАБ СМУТКУ НЕ БЫЛО Ў ВАЧАХ —
Я ПАДЫМАЮ ЧАРКУ.

ПАМІЖ НАРОДАМІ ВАЙНЫ
КАБ НЕ БЫЛО І СВАРКІ,
ЗА ВЕЧНЫ МІР, ЗА ПАХ ВЯСНЫ —
Я ПАДЫМАЮ ЧАРКУ.

ГАЛОДНЫМ КАБ НІХТО НЕ СЛАЎ
АРУЖЖА БОЛЬШ У ПАДАРКУ,
КАБ НЕГР Ў НЯВОЛІ НЕ СТАГНАЎ —
Я ПАДЫМАЮ ЧАРКУ.

КАБ З НАШЫХ ФАБРЫК З КОЖНЫМ ДНЁМ
ІШЛО ЎСЁ ДОБРАЙ МАРКІ,
КАБ ГАНАРЫЦЦА НАМ ДАБРОМ —
Я ПАДЫМАЮ ЧАРКУ.

КАБ НАМ БАГАТЫ УРАДЖАЙ
ДАВАЛІ ГАСПАДАРКІ,
КАБ КРАСАВАЎСЯ ЎВЕСЬ НАШ КРАЙ —
Я ПАДЫМАЮ ЧАРКУ.

КАБ ТУТ СТВАРЫЦЬ НАМ ДАБРАБЫТ,
А ПОТЫМ ЎЖО ДА ЗОРКІ
РАКЕТАЙ ШПАРЫЦЬ У БЛАКІТ —
ЗА ГЭТА ВЫП'Ю ГОРКАЙ!

Віктар Швед

З выпадку Новага года
ўсім членам Таварыства жадаем
поспехаў у грамадскай працы
і шчасця ў асабістым жыцці.

ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ
БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-
КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Нашым чытачам
і сімпатыкам складаем
навагоднія віншаванні.
Рэдакцыя


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 1 (253) | ГОД VI | БЕЛАСТОК, 1 СТУДЗЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


# СМУТКІ, РАДАСЦІ І НОВЫЯ НАДЗЕІ

1960 год шчасліва дачакаўся свайго канца. Наша планета не перастала існаваць насуперак прароцтвам італьянска - швейцарскіх адвентыстаў. Ні дзень 14 ліпеня, ні нейкі іншы тэрмін, прадказаны гэтымі містычнымі сектантамі, не прынёс з сабою канца свету. Нічога тады дзіўнага, што яны зараз агорнуты глыбокім сумам. Але затое мільёны нармальных людзей адчуваюць сапраўдную радасць — тую радасць, якую нясе з сабою жыццё.

Дык вось, 1960 год завяршыўся. Не быў гэта год лёгкі і пагодны. Што ж тады аб ім можна сказаць? Напэўна вельмі многа. Дазвольце, дарагія чытачы, што я правяду сёння сам з сабою інтэрв'ю, праззяду яго н рубяжы старога і новага года. Урэшце, так рэдка даводзіцца мне, як журналісту, адказваць на пытанні карэспандэнтаў...

Пытанне І: — Як ацэньваеш з палітычнага пункту гледжання 1960 год?

— Ну, што ж, прынёс ён шмат расчараванняў. Праваліліся ўсялякія дагэтуляшнія размовы па ўсеагульнаму і поўнаму разззбраенню, хаця чалавецтва спалучала з імі свае найвялікшыя надзеі. На жаль, заходнія сілы не хацелі выракчыся палітыкі балансавання на грані вайны. Іх дэвізам і надалей з'яўляецца прынцып захавання раўнавагі сіл, што ў выніку вяло да гонкі ўзбраенняў. У арсеналах павялічыліся прыпасы вадароднага і атамнага аружжа; тысячы новых танкаў, гармат, самалётаў і ракет выпусцілі ваенныя заводы. Ваенныя расходы кладуцца цяжкім ярмом на плечы мільёнаў рабочых, сялян, тых пластоў грамадства, якія ўсюды з'яўляюцца асноўнай групай падаткаплацельшчыкаў.

Дагэтуляшнія размовы аб забароне ядзерных выпрабаванняў таксама не закончыліся поспехам. Заходнія дзяржавы, нягледзячы на ўступкі Савецкага Саюза па гэтаму важнаму пытанню, засталіся на сваіх папярэдніх пазіцыях, аказаліся няўступчывымі. Пагроза ядзерных выбухаў і надалей у мінулым годзе вісела над чалавецтвам.

Заходнія дзяржавы ў гонцы ўзбраенняў ізноў абапіраюцца на найбольш агрэсіўнай сіле, якой з'яўляецца Заходняя Германія. Яе армія налічвае зараз каля 300 тысяч салдат. Яна аснашчэна танкамі, рэактыўнымі самалётамі, сучаснымі караблямі і ракетамі і чакае толькі на дастаўку атамных і вадародных бомб. Агульнавядомым з'яўляецца, што НАТА, інакш кажучы, Заходняя Германія мае стацца чацвёртай атамнай дзяржавай.

Затым, 1960 год быў годам напружаным і неспакойным.

Пытанне ІІ: — З таго, што было сказана, можна меркаваць, што гэты год належыць да найбольш змрочных перыядаў у гісторыі пасляваеннага свету. Ці не было ў ім, аднак, светлых дзён, умацоўваючых перакананне ў гуманнасць сучаснага свету?

Зразумела, што былі такія ясныя, аптымістычныя моманты. Яны і вырашылі, што 1960 год не быў годам сусветнай вайны.

Задавальненне ўзбуджае ў

(Працяг на стар. 2)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## Чаго вы жадаеце...

З навагоднім тостам рэдакцыя наша наведала некалькі чытачоў. А што гэта давялося нам зрабіць напярэдадні Новага года, дык засталі мы іх за працай. І каб многа не перашкаджаць, дык мы прасілі адказаць толькі на тры пытанні.

**1. Ці Вы здаволены, што Вам давялося жыць у другой палове XX стагоддзя?**

**2. Які год у Вашым жыцці быў найлепшы, а які найгоршы і чаму?**

**3. Чаго Вы жадаеце ад новага, 1961 года?**



**ПЁТР ТАФІЛЮК — І сакратар ПК ПАРП у Бельску Падляшскім:**

І. Як тут не быць задаволеным. Не трэба нават параўноўваць сучаснасці з далёкай мінуўшчынай, хопіць толькі параўнаць яе з гадамі нашага юнацтва.

Аб далёкім мінулым гаварыць не варта. Для мяне найгоршым аказаўся 1957 год. Я быў тады старшынёй ППРН у Гайнаўцы і нялёгка тады было працаваць «гаспадарам павета». У гэты час некаторыя людзі адбягалі ад сутнасці пастаноў VIII Пленума ЦК ПАРП.

У працы нашай бельскай партыйнай арганізацыі нядрэнным быў год, з якім развітваемся. У нашы рады ўступіла каля 500 чалавек — пераважае моладзь. У партыйнай працы больш актыўнымі сталі настаўнікі. Гэта суцяшальная з'ява.

У асабістым жыцці не меў я гадоў спецыяльна шчаслівых і не меў нешчаслівых.

3. Калі разыходзіцца аб працу — павялічыць колькасць членаў партыі, павысіць ідэалагічны ўзровень членаў; каб сяляне ўнеслі большы прагрэс у гаспадарку, дбалі аб механізацыю шляхам арганізацыі сельгасгурткоў і прадукцыйных спулдзельняў.

У асабістым жыцці — хіба толькі здароўя, каб добра працаваць, апраўдаць давер партыі.



**ЯНКА АСТАПКЕВІЧ — член сельгаскааператыва ў Вялікіх Тынявічах.**

1. Задаволены перш за ўсё таму, што жыву больш культурна, чымсьці мой бацька ў такім самым узросце. У нас электрычнасць, маю радыё, маю веласіпед, чытаю кніжкі, лепш апранаюся.

2. Найшчаслівейшы быў год 1959, калі мяне прынялі ў прадукцыйную спулдзельню. Цяжка было жыць з мамай

(Працяг на стар. 4)

